

Малюнак Алега ГУЦОЛА.



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.

# Думкі ўголас

- Крадзены агурок заўсёды малы.
- Злодзей — ананім, ды сляды — услед за ім.
- Дзе гарэлка паваліла, там і спаць міла.
- Шчаня — за пазухай, а сабака — пад плотам.
- Спатыкнуўся конь, а разбіўся коннік.
- Вушанка задумала, а валёнкі вінаватыя.
- І сонны кракадзіл — не бервяно.
- Разумны і жалейку паслухае, дурному і барабан не ўказ.
- Не ведае прыкмет варажба, калі ў цябе грошай няма.
- Мыліцы ходзяць, а кіёк кульгае.
- Страчанае шчасце доўга аклікае.
- Надзей — мора, дасягненняў — ручай.
- Кашалёк ненаедны.
- Ты плывеш, а ён ваду грабе.
- Да вечнага часу не дадасі і імгнення.
- Шлях прамы, але ж па балоце.
- Хамут вязе, а дуга цешыцца.
- Не ўсе вежы ў Вавілоне.
- І шыпшына вучыць, і крапіва.
- Прачытала вогнішча ліст.
- Вучыць кульгавы хадзіць прама.
- Не рака шырокая, а мост кароткі.
- Упоперак дарогі і адзін сабака — перашкода.
- Пеўню сніцца, што злавіў сініцу.
- А ён без няні і ў акно не гляне.
- Бачыш дзіва хвіліну, а памятаеш стагоддзе.

**Даслаў Барыс БЕЛЕЖЭНКА,**
*г. Віцебск.*



«Вожык»-фільм»
сумесна з Камітэтам
дзяржаўнага кантролю
Рэспублікі Беларусь
прадстаўляе

Пілуйце
гіры,
яны —
залатыя!

*Маляваны фельетон*








**Барыс КАВАЛЕРЧЫК**




Дрэнна, калі ў працоўным калектыве ўзнікаюць службовыя звадкі, калі адзін начальнік на месца другога мецiць. Калі, напрыклад, галоўны інжынер падседжвае дырэктара і вельмі старанна падкопвае пад яго. І, вядома, не рыдлёўкай. Ды не проста падкопвае, а нават закапаць не супраць. Ці намеснік галоўнага бухгалтара не толькі зводзіць дэбет з крэдытам, але і з інтарэсам паглядае на крэсла свайго шэфа і заўсёды гатовы заняць яго.

А вось у нас на фірме ўсё па-іншаму. Вельмі цёплыя ў кіраўніцтва адносіны склаліся. Іх можна нават сваяцкімі назваць. Ды і як інакш можа быць, калі ў нашага дырэктара Івана Данілавіча ў намесніках родны брат яго жонкі ходзіць, а галоўным інжынерам траюрадны брат працуе. Шмат сваякоў у бухгалтэрыі ды і ў іншых аддзелах. Асабліва па лініі яго жонкі Кацярыны Сцяпанаўны. Іван Данілавіч, вядома, і пра сваіх сваякоў не забывае, памяць у яго на гэта вельмі добрая. Апроч траюраднага брата, яго сын Пётр Іванавіч тэхнічны аддзел узначальвае, а дачка Машачка на кадрах сядзіць.

Не буду называць усіх сваякоў Івана Данілавіча і ягонай жонкі, якія ў нас працуюць, але ўсе яны займаюць дастойныя месцы. Вось толькі цешча Івана Данілавіча Наталля Пятроўна даўно на пенсіі і таму без працы, але кіруючую ролю на прадпрыемстве адыгрывае. Праўда, кіруе часцей за ўсё па тэлефоне. І наш дырэктар ад яе пастаянна каманды атрымлівае: то прыслаць машыну, каб яна магла ў магазін ці на рынак з’ездзіць, то не забыць, што яму нельга на рабоце затрымлівацца, бо сёння яны павінны ў госці ісці. Атрымлівае Іван Данілавіч вельмі каштоўныя ўказанні ад цешчы і дома. І гэта адразу становіцца бачна: то Іван Данілавіч ох які смелы, рашучы, гатовы нават горы звярнуць, а іншыя дні сядзіць вельмі задуменны, насцярожаны, прыціхлы, як мыш, якая хаваецца ад ката. Зразумела, што цешча з пасады зяця не звольніць, але адразу бачна: вымову ад яе атрымаў і, відаць, строгую.

Наогул, усё ў нашай фірме о’кей. Нават асабісты вадзіцель Івана Данілавіча пачаў да яго дачкі Машачкі заляцацца, хоча парадніцца. А чаму б і не, надакучыла, пэўна, яму круціць абаранак, ды і неблагія вакансіі з’явіліся.

Толькі ў прыёмнай сакратарка Аксаначка, хоць нікому не сваячка, але ўжо некалькі гадоў такую адказную пасаду займае. Вельмі сімпатычная дзяўчына. Вы б толькі бачылі, якая ў яе фігура!

У апошні час і я пачаў часта і сур’ёзна задумвацца пра тое, што сорамна мне ў сорак гадоў у радавых інжынерах хадзіць. Ды і летась родная сястра Івана Данілавіча аўдавела. Не буду ўтойваць: Аксаначка мне больш падабаецца. Але як на гэта паглядзіць Іван Данілавіч! Мне здаецца, што ён і сам ахвотна з ёю парадніўся б, калі б не жонка і цешча. А што датычыцца майго халасцяцкага жыцця, дык нічога, можна з такой нагоды адзін раз і ажаніцца. Затое ўсё будзе па-сваяцку!..

*г. Гомель.*


















Малюнкі Алега КАРПОВІЧА.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

# Як Хаўронню ацанілі...

*Байка*

Свіння жадала ў людзі
выбіцца не раз,
Ды толькі смех людскі
гучаў ёй у адказ.
І лыч яна ў вадзе штодня
старанна мыла,
І капыткі заўсёды
вапнаю бяліла.
Аж два гады круцілася
і сяк і так,
Нішто дапамагчы ёй
не змагло, аднак...
Усё ж Хаўронню гэту
людзі ацанілі,
Як каўбасу свіную
за сталом хвалілі.











**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

## КІШЭННЫЯ РАСХОДЫ



Паспаўшы,
Піва глыкнуўшы наранку,
Сабраўся сын пад вечар на гулянку.
Адзеў ён гарнітур
Апошняй моды:
— Дай, тата, на кішэнныя расходы.

Той паглядзеў
На ўбор шыкоўны сынаў:
— Цікава, хто табе такі падкінуў?
На ім жа, глянь,
Кішэняў — дзе папала.
Каб даць на ўсе,
Маёй заралаты мала.



Ты не крыўдуй,
Бо крызіс, бач, насеў:
Дам на адну кішэню,
Не на ўсе.
А каб з астатнімі ты мог
Каліся гуляць,
Ты сам на іх, сынок,
Пачні ўжо зарабляць.





Малюнак Алега ГУЦОЛА.

**Васіль ТКАЧОЎ**



## Радасць

*З натуры*

Дадому стары Зюлеў вярнуўся надзвычай узрушаны і ўсхваляваны. Хуценька скінуў плашчык, павесіў на цвік капялюш.

— Цікава, чаму я такі радасны? — апярэдзіў ён жонку, якая выйшла яму насустрач з залы. — Адгадай!

— Ну, можа, дапамогу якую выдалі?

— Не ўгадала!

— Кашалёк з грашыма знайшоў? — устрапянулася кабета.

— Дробязі! Бяры вышэй!

Колькі ні гадала жонка, а прычыну радасці свайго мужа так і не назвала.

— Мне месца сёння ў тралейбусе ўступілі! — пляснуў Зюлеў у ладкі. — Запомні гэты дзень. Запішы дзе-небудзь... Будзем святкаваць. А ты — дапамога, кашалёк... Пазвані сыну, абрадуй і яго. Суседзям скажы. Няхай і яны пацешацца... Радасць!..

*г. Гомель.*












## Каля «разбітага карыта»

***Брэсцкая вобласць***. Калі б здарылася так, што Старому з казкі «Залатая рыбка» давялося закідваць свой невад у вадаёмы філіяла «Рыбхоз «Соколово» ААТ «Полесьегипроводхоз», то выцягнуў бы ён не нейкую там маленькую рыбку з трыма жаданнямі! Дзед «злавіў» бы акты праверак па нездавальняючай рэканструкцыі і аднаўленні рыбаводных сажалак, па несвоечасовай выплаце заработнай платы, па махінацыях з бухгалтарскімі дакументамі, недакладныя справаздачы ў органы дзяржаўнай статыстыкі…

Гэта, вядома, казка. А на яве за гэтыя і іншыя парушэнні супрацоўнікі Камітэта дзяржкантролю прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці шэсць службовых асоб рыбгаса, а ў дачыненні да былога кіраўніка гаспадаркі ўзбуджана крымінальная справа. Здаецца, застануцца такія работнікі каля «разбітага карыта».




## Несалодкае жыццё

***Крупкі.*** Не соладка было ўкрывальніку няўлічанага цукру, калі падчас праверкі міліцыянеры знайшлі 19 тон гэтага прадукту на складзе ААТ «Крупскі плодаагародніны завод». Тавар агульным коштам 142 мільёны рублёў адразу канфіскавалі, а матэрыялы праверкі направілі ў гаспадарчы суд.

Зараз правапарушальніку пагражае штраф ад 30 да 50 базавых велічынь, каб жыццё цукрам не здавалася.




## Сыр у масле

***Гомельская вобласць.*** Натхніўшыся байкай «Варона і Лісіца», група беларускіх і расійскіх злодзеяў пачала незаконна вывозіць айчынную малочную прадукцыю ў Расію. З верасня 2011 па сакавік 2012 года з дапамогай рэквізітаў фірм, якіх на самай справе не існавала, злачынцы скуплялі сыр, тварог, смятану і іншыя прадукты на малакаперапрацоўчых прадпрыемствах Віцебскай і Гомельскай абласцей і адчувалі сябе, як сыр у масле. За гэты час яны зарабілі каля 4,7 мільярда рублёў.

Але як здарылася ў байцы: «Сыр выпал – с ним была плутовка такова», так і ў жыцці. Толькі на злачынцаў яшчэ і крымінальную справу завялі.




## На сувязі

***Магілёў.*** Прыемна пазваніць і паразмаўляць з сябрамі, бацькамі, каханым чалавекам. І як цудоўна, што з мабільным тэлефонам яны заўсёды могуць быць на сувязі. Таму продаж гэтага апарата – добразычлівая справа. Можа, менавіта так апраўдваў сябе 30-гадовы мясцовы жыхар, які нелегальна, праз інтэрнэт-сайты збываў звычайным людзям за замежную валюту мабільныя тэлефоны.

«Прадпрымальнік» лёгка адкруціўся – яму пагражае штраф да 15 мільёнаў рублёў. А мог увогуле застацца на нейкі час «без сувязі».




***Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.***









## Сучаснае каханне

Пакахаў дзяўчыну
І цяпер сумую:
Бо яна кахае
Не мяне — другую...

**Уладзімір КУЧМІНСКІ,**
*г. Маларыта.*





— А што, шаноўны, у вас усё яшчэ не прынята даваць білеты?

Малюнак Алега КАРПОВІЧА.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.

## Вясёлы слоўнік

Абабіць — ажаніць.
Абабраць — злавіць бабра.
Аблюбаваць — ажаніцца з Любай.
Ацяпляць — рабіць абы-як.
Вытрымаць — аб'явіць парадзісе аб нараджэнні тройні.
Гуляш — лайдак.
Гумар — прыхільнік жуйкі.
Даймаць — прасіць штосьці ў маці.
Закранаць — закрываць кран.
Замарыцца — летуценіць.
Кавалак — аматар кавы.
Кратар — турэмшчык.
Крыжаванка — могілкі.
Лапацець — абуваць у лапці.
Марылка — летуценніца.
Матляць — брыдкасловіць.
Небарака — той, хто не ходзіць у бар.
Пад'ёмнік — прапаршчык.
Памылка — пральная машына.
Папсаваць — слухаць сучасную музыку.
Паядынак — застолле.
Перапалка — шлагбаум.
Пітон — п'янтос.
Пляжыць — адпачываць каля мора.
Праўдадыр — ДАІшнік.
Прарабіць — працаваць прарабам.
Прынос — пенснэ.
Ротар — камандзір вайсковай часці.

**Заўважыў Міхась ДУБОВІК,**
*Бярэзінскі раён, в. Арэшкавічы.*














## Справу чакае Гаспадарчы суд

Намеснік старшыні Мінскага райвыканкама І. Галавач прачытаў крытычны матэрыял «Па-чорнаму» («Вожык» № 1 за 2013 год) і патлумачыў, што цяпер па дадзеным факце праводзіцца праверка, па выніках якой матэрыялы будуць накіраваны ў Гаспадарчы суд.




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

## Цяжкавагавыя пасылкі прымаюць на АПС

Намеснік генеральнага дырэктара па эксплуатацыі РУП «Белпошта» А. Скрыпчык уважліва вывучыў пісьмо сям'і Сідарчукоў з г. Мінска, надрукаванае ў рубрыцы «Вожыку» пішуць...» у № 1 за 2013 год, і патлумачыў сітуацыю. Цяжкавагавай з'яўляецца пасылка, вага якой перавышае 10 кілаграмаў. Пасылкі вагой ад 10 да 30 кілаграмаў прымаюцца ў асобных сталічных аддзяленнях паштовай сувязі (АПС): № 4 (вул. М. Танка, 36/2), 5 (пр-кт Незалежнасці, 46), 7 (вул. Жукоўскага, 6/2), 18 (вул. Якубоўскага, 32 а), 19 (вул. Лабанка, 109), 24 (вул. Асаналіева, 40/1), 30 (вул. Кірава, 33), 50 (Галоўпаштамт, пр-кт Незалежнасці, 10), 53 (Старавіленскі тракт, 28/1), 60 (вул. Вакзальная, 22), 66 (вул. Ташкенцкая, 16), 75 (вул. Бачылы, 14), 88 (вул. Пуліхава, 19), 90 (Лагойскі тракт, 27), 92 (пр-кт Пушкіна, 28), 94 (пр-кт Ракасоўскага, 33), 98 (вул. Слабадская, 15), 100 (вул. Багдановіча, 78), 102 (пр-кт Партызанскі, 147), 127 (вул. Каржанеўскага, 14: завод «Электроніка»), 141 (вул. Русіянава, 9), а таксама 100 (пункт паштовай сувязі па вул. Куйбышава, 75).

Таксама адзначыў, што Галоўпаштамт — цэнтральнае АПС г. Мінска. Будынак пабудаваны ў 1955 годзе і з'яўляецца помнікам архітэктуры (з пэўнымі асаблівасцямі праектавання). Таму паслугі кліентам па адпраўцы цяжкавагавых пасылак і далей будуць аказвацца толькі з боку вуліцы Свярдлова.

## Штраф і канфіскацыя

Намеснік старшыні Віцебскага гарвыканкама З. Каралёва прачытала крытычны матэрыял «Памяць падвяла» («Вожык» № 2 за 2013 год) і праінфармавала, што праваахоўныя органы наклалі на парушальніка штрафныя санкцыі, а тавар канфіскавалі.












Малюнак Алега ГУЦОЛА.

**Віктар КУНЦЭВІЧ**

## ЖЫЦЦЁ

У кожнага шлях свой
І светаразуменне...
Пад Божаю рукой
Антось стаў на калені.
Рабом стаў Апанас
Замежныя купюры.
Андрэй жа – лавелас,
Кабет нахабна дурыць.
На пенсію матулі
Жыве лайдак Васіль.
А Вользе – не да гульняў:
Шчыруе што ёсць сіл.
І гэтак пакрысе
Жыццёвы час бяжыць.
І скардзяцца ўсе чыста:
«Ой, цяжка, цяжка жыць...»

*г. Магілёў.*



Малюнак Алега КУРПІКА.












Малюнкі Пятра КОЗІЧА.

**Леанід ЛЕВАНОВІЧ**

# Як заяц чалавека пабіў

*Гісторыйка*

Хочаце – верце, хочаце – не, але вось што мне расказаў аднойчы сусед дзед Аўхім:

– Здарылася гэта даўно, акурат напрадвесні, калі снег раставаў. Паехаў я на веласіпедзе ў райцэнтр. Дзе дарога падсохла – еду, дзе нізка – нясу ровар на плячах... Стаміўся, словам. Прыставіў веласіпед да хвойкі, а сам сеў на пянёк перадыхнуць. Раптам нехта як таўхане мяне ў спіну! Ды так моцна, што я ледзь не пакаціўся. Паварочваюся: заяц! Вялікі, рудавата-шэры. Склаў пярэднія лапкі, нібы просіць прабачэння, і калоціцца ад страху. А тады як падхопіцца, як дасць драпака! Гляджу, а збоч дарогі другі зайка ўцякае...

Задумаўся я: чаму гэта заяц даў мне таўхеля? Чаму пайшоў на таран, не раўнуючы, як самалёт-знішчальнік? І дадумаўся! Гэта ж зайкі біліся за зайчыху! Вясна на дварэ: трэска на трэску лезе. Мацнейшы перамог і пагнаў слабейшага. Той уцякаў. Але ў час згледзеў мяне і адскочыў убок, а мацак бачыць мяне не мог, вось і ўрэзаўся з разгону ў спіну! Ды так моцна лупянуў, што аж сіняк застаўся. Добра, што я з сабою ў дарогу бутэлечку ўзяў. Націраў-націраў хворае месца, ды і заснуў...

Я дзеду Аўхіму паверыў, а вы?..









Усё!




# Аднолькавае і — рознае

*Ідыяматычныя выказванні ў розных мовах розныя, але азначаюць адно і тое ж. Харвацкае «У дзень святога Нікога» – гэта рускае «Калі рак на гары свісне». Палякі, калі не разумеюць, пра што ідзе гаворка, кажуць не пра кітайскую грамату, а паведамляюць абсурднае «Дзякуй, у мяне дома ўсе здаровыя». А калі ў Сербіі лье, як з вядра, лічыцца, што такі дождж здольны забіць маленькіх мышак. На сербскай мове гэтая фраза гучыць як «Падзі кіша забі міша»...*

*Рэдакцыя AdMe.ru адначасова расчулілася, жахнулася і заплакала. А таксама даследавала онлайн-слоўнікі: як гучалі б на рускай мове ідыяматычныя выразы, прынятыя ў іншых краінах, якія абазначаюць тое ж самае, што і ў нас. Мы пераклалі іх на беларускую мову і вось што атрымалася!*



## «Лье як з вядра»

Англійская: It's raining cats and dogs – Дождж з катоў і сабак.
Афрыканская: Дождж з бабулек з баявымі кіямі.
Баснійская: Дождж ламамі.
Валійская: Дождж з нажоў і відэльцаў.
Венгерская: Лье як з ванны.
Сербская: Дождж ідзе, мышэй забівае.
Тайская: Дождж зачыняе вочы і вушы.



## «Кітайская грамата»

Англійская: It's all Greek to me – Гэты грэчаскі для мяне.
Арабская: Я што, размаўляю на хіндзі?
Балгарская: Ты гаворыш са мной па-патагонску.
Грэчаская: Арабская грамата.
Іспанская: Размаўляйце са мной па-хрысціянску.
Нямецкая: Я зразумеў толькі «вакзал».
Польская: Дзякуй, у мяне дома ўсе здаровыя.
Чэшская: Іспанская вёска.




## «Вожыку зразумела» («Як двойчы два»; «Прасцей паранай рэпы»)

Англійская: As easy as falling off a log – Лёгка, як з бервяна зваліцца.
Дацкая: Як шыю пачасаць.
Іўрыт: Хоць з завязанымі вачыма.
Кітайская: Гэтак жа лёгка, як павярнуць далонь.
Польская: Як выпіць «маленькае піва».
Славенская: Як перакусіць.
Французская: Як палец у нос засунуць.
Харвацкая: Проста, як джэм.








## «Калі рак на гары свісне»

Англійская: When pigs fly – Калі свінні паляцяць.
Балгарская: На зязюліна лета.
Дацкая: Калі ў тыдні будзе два чацвяргі.
Італьянская: Калі Вялікдзень выпадзе на травень.
Кітайская: Калі сонца ўзыдзе на захадзе.
Латвійская: Калі савіны хвост заквітнее.
Малайская: Калі крумкач паляціць пузам дагары.
Нямецкая: У дзень святога Ніколі.
Польская: Калі ў мяне на руцэ кактус вырасце.
Румынская: Калі я сваю патыліцу ўбачу.
Украінская: Калі вош чхне.
Фінская: Калі пекла замерзне.
Французская: Калі ў курэй зубы вырастуць.
Харвацкая: У дзень святога Нікога.





## «Дах паехаў»

Балгарская: Зязюля паляцела.
Галандская: Ён бачыць, як яны ляцяць.
Дацкая: Пацукі на гарышчы.
Італьянская: Напіўся са сваімі мазгамі.
Нямецкая: У цябе яшчэ ўсе кубкі ў буфеце?
Партугальская: Галава, як гнілы часнок.
Сербская: Мокрай шкарпэткай пабіты.
Харвацкая: Вароны мозг выпілі.
Чэшская: Лішняе кольца ў галаве.
Шведская: Калі ён думае, яму не шанцуе.



### АНЕКДОТ

– Сёння ў цябе грыбы проста цудоўныя! – сказаў муж жонцы, задаволены смачным абедам. – Дзе ты адшукала рэцэпт іх гатавання?
– У адным дэтэктыўным рамане.




*Фотаздымкі і тэкст узяты з сеткі інтэрнэт.*



Крыху пра чалавека з каменнага веку
Кірую без усялякай каробкі перадач!
Зловім іх пасобку.
Гэтыя кажаны дасталі!
Я ж прасіла, каб ты зрабіў шафу.
У вас важкая зброя — здаемся.
Не бжа, любая, так палюбоўнікаў марозіць.
Каліўжо гэты год Змяі скончыцца?
Сіла, брат, у грамадзе.
Атракцыён «Вясёлая горка»
Тут быў Вася
Не забуду цётку Гэлю
Асцярожна! У гаражы злы лімузін.

Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

# Навіны з МУС: матай на вус...

## Па «гарачых слядах»

***Барысаўскі раён.*** Адзін 20-гадовы жыхар вёскі Персцень марыў пра медалі. Але ні ў якіх спартыўных спаборніцтвах прызавых месцаў не займаў, па заканчэнні школы таксама ні на якія ўзнагароды не прэтэндаваў, нічога геройскага, што можна было б адзначыць, не здзейсніў. Таму проста ўкраў дзевяць медалёў і два нагрудныя знакі ў ветэрана з суседняй вёскі Засценак.



Але прымераць узнагароды злодзею не давялося, бо хутка яго затрымалі міліцыянеры. Прычым знайшлі «героя» па «гарачых слядах», якія ён пакінуў на снезе.

## Як у кіно

***Маладзечна.*** Як часта ў кіно можна ўбачыць наступную карціну: галоўны герой ці гераіня, толькі прачнуўшыся, гатуюць сабе духмяную каву, наліваюць яе ў маленькі кубачак, і, прыкурыўшы цыгарэту, разважаюць пра сваё жыццё.



Мабыць, нейкі невядомы вырашыў зрабіць гэтаксама. Толькі ні цыгарэт, ні кавы ў яго не было. Але выйсце знайшлося: злачынец украў іх з гандлёвага кіёска ААТ «Трыбун» па вуліцы В. Гасцінец. Сума «пакупак» склала больш за 12 мільёнаў рублёў.

Цяпер невядомага расшуквае міліцыя. Спадзяёмся, што пазбегнуць адказнасці, як гэта часта бывае ў кіно, у яго не атрымаецца.

## Як трымаць сябе ў руках

***Ліда.*** Што вы робіце, калі ў вас нешта не атрымліваецца? Спрабуеце яшчэ раз, больш не бярэцеся за гэту справу, просіце сяброў дапамагчы ці праклінаеце сваю слабасць? Усё залежыць ад таго, які ў вас характар.

Вось, напрыклад, 32-гадовы лідчанін прыйшоў п’яны ў більярдны клуб і пачаў там буяніць. Пашкодзіў тры крэслы, два більярдныя шары, зламаў кій, пабіў два акны.

Дакладна не вядома, што ў яго не атрымлівалася: ці ў лунку не мог трапіць, ці прайграў каму, але па факце дэбошу заведзена крымінальная справа. Можа, яна дапаможа лідчаніну ў наступны раз трымаць сябе ў руках, калі нешта не атрымліваецца?



***Па матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў і УУС Мінскага аблвыканкама.***



Малюнак Алега ГУЦОЛА.

# Пазітыўная псіхалогія ад Аляксандра ПЯТРОВА


















## У нас у гасцях — часопіс «Перац»

*(Украіна, г. Кіеў)*

# Перець



Малюнак Анатоля ВАСІЛЕНКІ.




– Выцягніце аўто, засыпце яму і заасфальтуйце!
– Колькі можна?! Мы ж толькі ўчора тут асфальтавалі!

## Канвертаваныя думкі

Адны імкнуцца разабрацца ў гісторыі, іншыя — пакорпацца ў ёй.

З біяграфіі: «Фартуна адвярнулася. Прыйшла Феміда».

Такі мы ўжо народ — чакаем з нецярпеннем, а потым цярпліва чакаем.

**Мікола ЛЯВІЦКІ,**
*г. Фастаў.*




Малюнак Уладзіміра АДАМОВІЧА.

## Сіла самаўнушэння

*Быль*

У Святаслава нешта балела. Такія колікі сярод ночы здараліся, так страляла, што хоць ты на сцяну лезь.



Малюнак Віктара ПАПОВА.

Дык ён ужо прызвычаіўся класці на край стала таблеткі і ставіць шклянку вады. Не расплюшчваючы вачэй, намацае таблетку, зап'е вадой, яно і адпусціць.

А то неяк у яго адарваўся гузік ад пінжака. Ён і паклаў яго на стол, каб не забыць заўтра жонцы нагадаць прышыць. Ноччу, як зноў моцна закалола, завучаным рухам намацаў таблетку, запіў вадой, яно і стала лягчэй.

Раніцай падняўся — таблеткі цэлыя, гузіка няма. «А дапамагло гэтаксама», — заўважыў Святаслаў і задумаўся: ці не перайсці ўвогуле замест дарагіх пігулак на бясплатныя гузікі — вунь іх колькі на старых пінжаках нашыта.

**Мікола БОСАК.**

## Сучасная школа

Інтэлігентны выкладчык этыкі Андрэй Пятрэнка, які пасля заканчэння ўніверсітэта тыдзень папрацаваў у школе, раптам успомніў, што ў яго другі юначы разрад па боксе.

**Пачуў і запісаў Алег КРЭМІНЬ,**
*г. Адэса.*




Апошняя праверка.

Малюнак Анатоля ВАСІЛЕНКІ.




Малюнак Уладзіміра АДАМОВІЧА.

## Кароткаслоўі

Цяпер бараны не глядзяць на новыя вароты, а хаваюцца за імі.

З тых часін, як з'явіліся грошы, іх заўжды не хапае.

**Іван ТАКАРЧУК,**
*г. Камень-Кашырскі на Валыні.*



Малюнак Юрыя КАСАБУКІНА.




– А ў колькі вам абышліся іншапланецяне?

Малюнак Валерыя СІНГАЎСКАГА.

## Народныя ўсмешкі

### Цана

– Алё! Гэта гарводаканал?
– Так.
– А чаму ў мяне з крана цячэ вада?
– Гэта ж выдатна. А што вас не задавальняе?
– Цана. Калі меркаваць па тым, колькі я павінен заплаціць за студзень, павінна цячы піва, або, у крайнім выпадку – квас.

### Вясновыя думкі

Двое пенсіянераў сядзяць на лавачцы, грэюцца на вясновым сонейку. Паўз іх праходзіць маладая сімпатычная дзяўчына ў кароценькай спадніцы. Адзін з пенсіянераў летуценна кажа:
– Эх, было б мне цяпер дваццаць гадкоў...
– Міхайлавіч, ці ты здурнеў?! Дзеля нейкіх пяці хвілін сумнеўнага задавальнення зноў сорак пяць гадоў працаваць! – адгукаецца другі.

### Людзі парадку

– Бясспрэчна! Нашы чыноўнікі і дэпутаты – людзі парадку.
– Хто гэта сказаў?
– Я кажу. У іх з машынамі, зарплатамі, прэміямі, кватэрамі, дачамі... усё ў парадку.

**Пачуў і запісаў Рыгор КІРЫЛЮК,**
*г. Калінаўка на Вінніччыне.*

## Страшная пярына не ў гусака...

«Напрыклад, бываюць прыклады, калі з таго, каго ставяць у прыклад, нельга браць прыклад».
*(З вучнёўскага твора).*

«Абітурыенты таўклі ваду ва ўступе да Ровенскага інстытута меліярацыі і воднай гаспадаркі».
*(З дакладной запіскі).*

«Гандлюе сваім целам з-пад крыса...»

«Канадцы ўкраінскага паходжання з венгерскай вёскі ў Закарпацці...»
*(З пратаколаў).*

**Прыслаў Фларыян БОДНАР,**
*г. Чарнаўцы.*




## У сарокі на хвасце

Адкуль навіны ў вёсцы ўсе?
Спытайце тут вы у любога.
І вам адкажуць: на хвасце
Сарока носіць да парога.

Сусед дарогу перайшоў
З вядзерцам без вадзіцы –
І ўжо па вёсцы слых пайшоў:
Задумаў з некім пасварыцца!

Сусед суседцы плот падняў,
Які ад ветру паваліўся.
Дальбог, ніхто не прыдумляў:
На трое сутак загасціўся!

Паслухаць гэтую сароку:
Ну, столькі розных тут праяў,
Што ўсім, дальбог, адна дарога.
У... мексіканскі серыял!

**Анастасія ЖУК,**
*г. Баранавічы.*

## Памылкі няма

Завітала
К суседу суседка
І з парога адразу:
– Фадзей,
Гэта ж ты
З нагі правай шкарпэтку
Дый на левую,
Бачу, надзеў.
Дзед адпіў
З кубка моцнае кавы,
Усміхнуўся
І кажа: – Кума,
Я ж і ногі
Свае пераставіў.
Так што тута
Памылкі няма!..

**Фёдар ЛАПАНІК,**
*г. Ляхавічы.*





## Што такое сэксафон?



Што такое сэксафон?
Ды жыцця праява.
Можа быць за грошы ён,
Можа – на халяву.

Падаецца як дэсерт
Дарагому госцю,
Каб прыгожым быў канцэрт,
З большай весялосцю,

Для пацехі гледачу,
Што сядзіць на лаўцы,
Ды карысці, я лічу,
Больш для выканаўцы.

Калі дрэнны ён спявак,
Тут такое выйсце:
Хай падасць умоўны знак
Дзеўкам голым выйсці.

Спеў тады не заўважай,
Не прымай да вуха –
Ты на формы пазірай,
А не песню слухай.

Голых дзевак бачыў сам,
Бачыў і ў бялізне...
Дзякуй, родная папса!
Дзякуй, шоу-бізнес!

Ды нікога за «дэсерт»
Я не дакараю,
Вам схадзіць на той канцэрт
Ад душы параю.

Паспрабуйце час знайсці
Паміж спраў будзённых,
Бо галоўнае ў жыцці –
Сэкс, не хлеб надзённы.

...Верш мой, нібы марафон,
Доўгі, як вяроўка.
Што такое сэксафон?
Гэта ж падтанцоўка!



**Анатоль ГАРАЧОЎ,**
*Іўеўскі раён, в. Даўнары.*




Малюнак Міхася ДАНІЛЕНКІ, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.

*Толькі для мужчын!*

## Як правільна не мыць посуд

Што рабіць, калі жонка прымушае вас мыць посуд? Не панікаваць і ўзяць у рукі анучку. Аднымі словамі: «Пасядзі, дарагая, адпачні, я і сам спраўлюся!» вы ўпырскваеце ў жаночае самалюбства маленькую кропельку атруты, якая падзейнічае вельмі хутка. Дзіўнага тут нічога няма: яшчэ са старажытнасці ў большасці жанчын склалася ўяўленне, што паняцце акуратнасці падыходзіць да іх куды больш, чым да нас, мужчын.

Пры мыцці посуду абавязкова пакідайце на шклянках і талерках крышку бруду, а яшчэ лепш – забудзьцеся іх прапаласкаць. Неўзабаве жонка, цікаўная па сваёй натуры, наведаецца на кухню, і ваша неахайнасць будзе адразу ж заўважана. Змаўчаць у такім выпадку ні адна жанчына не зможа!

Калі жонка ўсё ж ігнаруе вас, выпадкова разбіце кубачак (пажадана, яе любімы). І пастарайцеся парэзаць сабе пару пальцаў. Крыку будзе на цэлы дзень! У залежнасці ад тэмпераменту і выхавання жанчына знойдзе вам адпаведны «камплімент» і нагадае, адкуль у вас растуць рукі. Цярпіце моўчкі. Скончыцца ўсё тым, што з гэтага часу мыццё посуду стане выключна жончынай прэрагатывай. Перамога за вамі!

**Віктар САЛАНЕЦ,**
*г. Любань.*

**Міхась СЛІВА**




## Мера заахвочвання

Дырэктар фірмы строга гаворыць падначаленым:

– Своечасова і якасна выканаеце маё заданне – усіх заахвочу!

– Якім чынам? – падаў нехта голас.

– Не пакараю.

## «Падарунак»

Пісьменнік паказвае кнігу свайму знаёмаму і прызнаецца:

– Я тут галоўнаму герою надаў некаторыя рысы вашага характару...

– Дык давайце я падпішу вам адзін экзэмпляр! – радасна ўсклікае «прататып». – Будзе мой падарунак вам!

## Ногі – равесніцы

Бабуля скардзіцца доктару:

– Вельмі баліць левая нага!

– Гэта ў вас ад старасці, – тлумачыць доктар.

– Дык чаму ж тады не баліць правая? – здзіўляецца бабуля. – Яны ж равесніцы!

## «Умацаваў»

– Ты не памятаеш, – пытае муж у жонкі, – таблеткі для ўмацавання памяці я ўжо ўсе выпіў ці не?

## Чым я горшая?

– Людміла, гэта праўда, што ты з мужам разводзішся?

– Праўда! Чым я горшая за суседку Аксану? Яна ўжо трэцяга мужа мяняе, а я ўсё з адным гарую...

## І лавіў, і замочваў

Сустрэліся два рыбакі-аматары:

– Ну, як прайшла рыбалка?

– Нармальна! Учора – больш за тры кілаграмы, а сёння – два прамілі...

## Рацыяналізатар

У кампаніі сябрукі наліваюць гарэлку.

– Жора, навошта ты агурок кладзеш у шклянку?

– Каб потым не траціць часу на закусванне.

## Сіла волі

Размаўляюць два знаёмыя:

– Ты курыш?

– Не. Праявіў сілу волі: месяц таму кінуў і больш цыгарку ў рот не бяру!

– А ў мяне таксама моцная сіла волі: ужо год як кінуў працаваць – і не цягне!

## Клапатлівы

– Накрыйце, калі ласка, свае калені, – звяртаецца малады чалавек да дзяўчыны, з якой сядзіць побач у аўтобусе.

– Навошта? – з недаўменнем глядзіць на яго суседка.

– І вам будзе цяплей, і мне спакайней.

## Гаротнік

П’яны мужчына сядзіць у двары на лаўцы. Перад ім стаіць жонка і ўгаворвае ісці дахаты:

– Хадзем ужо, а то я замерзла...

– А мне, думаеш, цёпла? – усклікае мужчына.

## Шчаслівы



Сустракаюцца двое:

– Як жыццё?

– Цудоўна! З учарашняга дня стаў шчаслівым: згубіў свой наручны гадзіннік. А шчаслівыя, як вядома, на час не зважаюць...

## Арыгінальнае меню

– Суседка, запрашаю цябе на абед!

– А што будзе смачненькае?

– Што купіш, тое і з’ядзім.

## Уважлівая прычына

– Дзе ты сабе такі гузак набіў?

– Стукнуўся лбом аб дзверы...

– Трэба ўважліва глядзець!

– Дык я і глядзеў: там у кабінеце такая красуня сядзела!..

*Працяг на стар. 20.*




Малюнак Пятра КОЗІЧА.

Працяг. Пачатак на стар. 19.

## Стратэг

У аўтобусе, зручна ўладкаваўшыся на сядзенні, едзе малады хлопец. На прыпынку ў салон заходзяць дзве бабулькі і спыняюцца каля яго.

– Прабачце, – кажа хлопец, – што я не прапаную вам сваё месца: калі ўступлю адной з вас, то другая можа пакрыўдзіцца...

## Кемлівы



У гасцях.

– Цікава, чаго гэта гаспадыня налівае табе гарэлкі больш, чым іншым?

– Таму што я прапаную тост за здароўе тых, хто не п'е, а гаспадыня, як вядома, непітушчая.

## Прамоўца

– Наш Іван Іванавіч амаль не злазіць з трыбуны.

– Што, так любіць выступаць?

– Ды не, яго пастаянна заслухоўваюць на нарадах за дрэнную работу.

## Хутчэй выконвайце!

У арганізацыю прыехаў правяральшчык з вышэйстаячай установы. Яго пачаставалі абедам, але без традыцыйных сто грамаў.

– Няўжо і пяць грамаў не знойдзецца? – дзівіцца госць.

– А мы дырэктыву аб барацьбе з п'янствам выконваем! – з гонарам адказваюць гаспадары.

– Дык што, да гэтай пары яшчэ не выканалі?! – ускіпеў правяральшчык. – За тое, што марудзіце, будзе вам спагнанне!

## «Гаспадары»

– Мы працуем па двух крэдытах.

– Як гэта?

– Адзін – плацім, другі – бяром.

## Каб добра адпачыць

– Калі вы ўжо прыедзеце ў наш санаторый?

– Пабуду пакуль дома, сіл набяруся...

## Самі рашайце

– Ты хочаш мець: брацікa ці сястрычку? – пытаюць бацькі ў малой Тані.

– Вы ўжо дарослыя, самі рашайце, як лепш, – адказвае дзяўчынка. – А ў мяне сваіх праблем хапае...

## Чаргаванне зычных

– У пісьменніка павінна быць Муза.

– А ў пісьменніцы?

– Муж!

## Упэўнілася

Раённая камісія прыехала ў вёску правяраць скаргу бабулькі. Факты не пацвердзіліся.

– Навошта вы пісалі скаргу, калі ўсё ў парадку? – пытаюць у бабулі.

– Хацела ўпэўніцца, што вы прыедзеце правяраць...

## Несапраўдны Дзед Мароз

Для маленькай Дашы бацькі запрасілі праз бюро паслуг святочнага Дзеда Мароза. Ён прынёс падарункі і разам са Снягурачкай павіншаваў дзяўчынку з Новым годам.

– Гэта несапраўдны Дзед Мароз! – надзьмулася Даша. – Да нас у садзік прыходзіў дзядуля ў чырвоным футры, а гэты – у сінім!

## Бабуля не расце

Бабуля корміць малую Юльку і прыгаворвае:

– Хутчэй еш суп, а то не вырасцеш!

– А ты ж, бабуля, кожны дзень яго ясі, а большая не расцеш! – пярэчыць унучка.



## Хто хуліган?

Дзіма падбег да маці і скардзіцца:

– Наш сусед Косця – хуліган!

– Ён што, можа, пабіў цябе? – занепакоілася тая.

– Не, толькі я яго!..

*г. Рагачоў.*




Малюнак Руслана БОГУША.




Малюнак Аляксандра ШМІДТА.






Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.



Малюнак Руслана БОГУША.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.




Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.






Малюнкі Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэмы Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




**Янка ГАЛУБОВІЧ**




Восенню, калі пахаладнела, знайшоў вожык у глухой мясцінцы трухлявы пень, зрабіў у ім гняздо з лісця і заснуў.

Доўга спаў вожык ці не, сам не ведае. Але аднойчы пачуў, што нехта трывожыць яго: усё бубніць і бубніць непадалёку. Высунуў пыску з гнязда, глядзіць — аж гэта ручаёк весела журчыць.

— Прачнуўся сам і іншых будзіш, — папікнуў яго вожык. — А я не выспаўся яшчэ, ручаёк.

І зноў у гняздо пацiснуўся, заснуў. Раніцою вочкі расплюшчыў і зморшчыўся, быццам горкую пілюлю праглынуў. Увесь бачок — мокры. Вылез з гнязда і бачыць: ручаёк пашырэў, да самага пня падступіўся.

— Ну, пачакай, назола! — зазлаваў вожык. — Я цябе зямлёй засыплю!

Хуценька перабіраючы ножкамі, падбег да ручайка, а той падхапіў яго і панёс.

Плыве вожык, ніяк да беражка прыстаць не можа. А наўкола — вясна. Лёгкі туманок над зямлёю сцелецца. Падбел расцвіў, пралескі яснымі вочкамі ўсміхаюцца. У сінім небе жаўранкі спяваюць.

Вожык і пра злосць сваю забыўся. Выбраўся з вады на беражок, сказаў:

— Дзякуй, ручаёк! Каб не ты, я і вясну праспаў бы!

*г. Маладзечна.*



## Страшылка для Бабая

Маляваў Віталік птушку,
Падпісаў, што папугай:
Вочы — кропкі, дзюба — дужкай,
Хвост ідзе за небакрай...

Падышла да сына маці:
«Цацкі хуценька збірай,
Спаць кладзіся: вунь па хаце
Ходзіць з мехам дзед Бабай...»

«Ты не бойся! — свой малюнак
Сын матулі падае. —
Птушка — наш з табой ратунак:
Рогі дужыя ў яе!

Гэтым дзіва-папугаем
Я Бабая напужаю:
Ён ад страху задрыжыць
І ў далёкі лес збяжыць!»

**Святлана БЫКАВА,**
*г. Заслаўе.*







Малюнак Алега ГУЦОЛА.

## Павел САКОВІЧ

### Ручная мышка

*Загадка*

На стале пісьмовым з мышкай
Хлопчык Стась гуляе.
То ёй хвост прышчэміць крышку,
То далонню прыціскае.
Церпіць гульні мышка тая.
Пад рукой сядзіць хлапечай,
Як прывязаная нечым...
Не крыўдуе, не ўцякае.
Што ці хто яна такая?

(Камп'ютарная мышка.)





У малюнку ёсць падказка.
Што шукае сабачка з таго,
што намалявана ўнізе?

(Костку.)

### Загадкі-жарты

1. Хто размаўляе на ўсіх мовах?
2. Які гадзіннік паказвае правільны час два разы ў суткі?
3. Што можна ўбачыць з заплюшчанымі вачыма?
4. Ад 20 адыміце 88, але так, каб у выніку атрымалася 22.
5. Які лік дзеліцца абсалютна на ўсе натуральныя лікі без астатку?

Адказы:
1. Рэха. 2. Той, які спыніўся.
3. Сон. 4. XX − 88 = 22 5. Нуль.




Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.




– Калі ты выправіш свае кепскія адзнакі!?
– Адразу ж, як знайду ласцік...

Малюнак Андрэя СКРЫННІКА.



# Галаваломка




*Калі вы правільна адгадаеце «зашыфраваныя» словы і ўпішаце іх у гарызантальныя радкі, то прачытаеце па вертыкалі слова, што абазначала чалавека, які шмат ведаў і вельмі шмат пісаў.*

**1.** Той, хто ездзіць «зайцам».
**2.** Работнік, які рэгулюе працэсам з аднаго цэнтральнага пункта.
**3.** Ім адным можна забіць двух зайцаў.
**4.** Не ўсякі пан, у каго ... навыпуск.
**5.** Сучасны «водны» салон.
**6.** Яе трэба гнуць, пакуль маладая.
**7.** Чалавек, які мае залатыя рукі.
**8.** Дзялок, камерсант.
**9.** Зямля-...

Адказы:
1. Безбілетнік. 2. Дыспетчар. 3. Выстрал. 4. Штаны. 5. Спа. 6. Асіна. 7. Майстар. 8. Бізнесмен. 9. Карміцелька. Выдзеленае слова па вертыкалі: **летапісец.**

## Назіранкі

«Нацяжныя столі замежнай вытворчасці. Нацягнем Францыю!»

*(З аб'явы.)*

«Я, галоўны бухгалтар-пашпартыстка дома «Парус», сыходжу ў частковы працоўны адпачынак».

*(З заявы.)*

На багажніку легкавога аўтамабіля выведзена вялікімі літарамі: «Спяшаешся? Пераскоч!»

З размовы дзвюх жанчын пра агульную знаёмую:

– Вядома, прыгожай усё да твару, хоць і галава маленькая, і валасы рэдкія!..

«Людзі такія неразумныя, а жанчыны... увогуле!..»

*(З падслуханага.)*

У футбаліста, каманда якога прайграла, цікавяцца:

– Можа, вы так гулялі, бо хацелі перамагчы?..

«Групе «Металіст» тэрмінова патрабуецца гарманіст. Звяртацца па тэлефоне: 123-45-67»

*(З аб'явы.)*

**Заўважыла Ірына ЛЯВОНАВА,**
*г. Масква.*



## АНЕКДОТ

Пачынаючая спявачка – прафесару:

– Як вы лічыце, ці варты на штонебудзь мой голас?

– Канечне, што за дзіўнае пытанне! Пры пажары ці караблекрушэнні яму проста цаны няма!


**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**

**«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс**

№ 4 (1495), 2013 год.

*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
*Часопіс «Вожык» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэгістрацыйны № 520.*

Заснавальнікі – Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ПРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Валянціна ДУБРОВА, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Павел САКОВІЧ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.

**Рэдакцыя:**
Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў).*

*Рэдактар стылістычны* Марыя ПЛЕВІЧ.
*Камп'ютарная вёрстка*
Святлана ТАРГОНСКАЯ.

**Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220005, Мінск,**
**праспект Незалежнасці, 39.**
**E-mail:a-vojik@yandex.ru**

***Тэлефоны:***
***галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзела літаратуры, мастацкага аддзела – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.***

Рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Перадрукоўваючы матэрыял, трэба абавязкова спасылацца на «Вожык». Разглядаюцца рукапісы, надрукаваныя на машынцы або набраныя на камп'ютары. Аўтары публікацый нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пазіцыю і думку аўтараў.

Падпісана да друку 10.04.2013
Фармат 60x84 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,59. Тыраж 1898 экз.
Заказ 1155.

Кошт нумара ў розніцу 14 000 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск,
праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 3.04.2009.